Pierasyłka apłačana „ryčałtam".

Цана асобнага нумару 15 гр.

№ 15. Вільня, пятніца, 24 жніўня 1928 г. Год II.

**РЭДАКЦЫЯ й АДМІНІСТРАЦЫЯ:**
Вільня, Новы Сьвет. Тургельская 22 кв. 3.
ПАДПІСКА: на год . . . . 6 зал
„ паўгоду . . . 3 „
на 3 месяцы . . 1 50 гр.
Заграніцу ўдвая даражэй.

# НАРОД

ВОРГАН БЕЛАРУСКАЕ СЯЛЯНСКАЕ ПАРТЫІ.

**ЦАНА АБЕСТАК:**
Перад тэкстам . . . . 20 гр.
Сярод тэксту . . . . . 25 гр.
і па тэксьце. . . . 15 гр.
за радок дробнага друку.

Выходзе 4 разы у месяц.

## Страшная крыўда.

На тры міліёны беларускага народу ў Польшчы, ёсьць звыш 2-х міліёнаў сьвядомых Беларусаў. Гэтая беларуская маса жадае й дамагаецца сабе школы ў роднай мове, жадае роднай школы беларускай навет балей, чымся жадаў польскае школы просты народ польскі за няволі маскоўскай. Гэтае дамаганьне Беларусамі роднай школы адбілася навет у польскім грамадзянстве, так звычайна глухім на патрэбы беларускага народу. Гэтак, паміж іншым, краёвая, віленска-наваградзкая група паслоў і сэнатароў Беспартыйнага Блёку Супрацаўніцтва з Урадам пастанавіла: 1) каб дарогаю зьмены языковых уставаў даць беларускаму насяленьню магчымасьць мець свае пачаткавыя школы, 2) каб дзьве беларускія гімназыі— у Вільні й Наваградку—сталіся ўрадовымі або прызнаны ім былі правы публічнасьці і поўнае матар'яльнае забясьпечаньне ад гаспадарства, 3) каб сёлета была адчынена Беларуская Вучыцельская Сэмінарыя ў Вільні ды 4) ўведзена беларусаведа ў Віленскім у-це. Апрача таго, „адзінка" дамагалася стварэньня беларускага адзьдзелу пры школьных кураторыях. Мэнаваныя зычэньві „адзінкі" былі меншыя за мінімальныя дамаганьні на сёлета самых Беларусаў, але розьніца ня так вялікая.

Мы тады ўзьдзержыліся ад ацэны рэзалюцыеў „адзінкі", чакаючы іх ужыцьцяўленьня, бо толькі ад гэтага яны мелі-б запраўднае значэньне. Тымчасам цяпер аказуецца, што ўжыцьцяўляць гэных дамаганьнеў урад ня думае.

У Віленскім школьным вокрузе маюць быць адчынены толькі 4(!) новыя пачаткавыя беларускія школы ўрадовыя. На беларускаю вучыцельскаю сэмінарыю з правамі й забясьпечаньням ад скарбу Міністэрства Асьветы не згаджаецца і г. д., і г. д. А ведама, што калі не згаджаецца на беларускаю вучыцельскаю сэмінарыю, дык *прынцыпова* не згаджаецца й на беларускія пачаткавыя школы. Кожны Беларус зразумее—і начай зразумець немагчыма—што польская школьная палітыка ў адносінах да Беларусаў астаецца старая—палітыка полёнізацыі й ністажэньня. Няго-ж усяго гэтага Урад не разумее і ня зьверне яшчэ сёлета перад пачаткам школьнага году із свае шкоднай і небясьпечнай дарогі!?

## Паўночны Кірмаш і Выстаўка ў Вільні.

18 жніўня сёлета адчынены ў Вільні Паўночны Кірмаш і Выстаўкі — гаспадарска-прамысловая й краёвая. Кончыцца Кірмаш і Выстаўкі 9 верасьня. З вонкавага боку кірмаш з выстаўкамі выглядае хораша дый зьмест яго даволі цікаўны. Заданьням іх ёсьць — ажывіць гаспадарскае жыцьцё Краю (запраўды Заходняй Беларусі) й Польшчы ды паказаць што Край мае. Мэты гэтыя хіба будуць у некаторай меры дапяты.

Падробны агляд кірмашу й выставак дамо ў № 16 „Народу", а цяпер зьвернем увагу на колькі Б*еларусы* прыймаюць учасьця ў кірмашы й выстаўках. Ведама, на колькі выстаўленыя экспонаты краёвыя, дык тым самым яны, хоць-бы толькі тэрыторыяльна, беларускія. Але гэтага мала, бо важна, каб *собсьнікі*, выстаўленых на продаж ці выстаўку прадметаў былі Беларусамі, а яшчэ важней каб былі *сьвядомымі* Беларусамі. І тутака справа прадстаўляецца гарэй, бо нашыя гаспадары-земляробы даюць на выстаўку свае земляробскія вырабы й жывёлу пры пасярэдніцтве старастваў, часта па загаду старасты. Карысьць з гэт'кага выстаўленьня шмат меншая, як з выстаўленьня самастойнага, бо нашыя гаспадары, апынуўшыся пад загадам начальства, трацяць шмат зацікаўленасьці і ўсялякаю ініцыятыву. А сьвядомых беларускіх прамыслоўцаў блізу што дагэтуль нямашака, прынамся абіх ня чуваць.

Астаюцца беларускія гаспадарскія й культурныя арганізацыі, каторыя павінны былі-б у значнай меры запоўніць нястачу актыўнага й самастойнага ўчасьця асобных Беларусаў на кірмашы й выстаўцы. На жаль, з арганізацыеў толькі адзін Беларускі Гаспадарскі Зьвяз выказаў зразуменьне патрэбы і выпаўніў сваю павіннасьць. Беларускі Інстытут Гаспадаркі й Культуры, як заўсёды, так і цяпер не хацеў заняцца гаспадарскай працаю. У ўрадах Беларускага Навуковага Т-ва і Таварыства Беларускае Школы цяпер мае перавагу кучка безадказных людзёў, каторым беларуская справа ня дарага. Гэтыя абодва Т-вы хацелі прыняць учасце ў выстаўцы і выставачны камітэт іхні зьвярнуўся да Беларускага Гаспадарскага Зьвязу з прапазыцыяй выступіць на выстаўцы супольна. Зьвяз адразу даў сваю на гэта згоду. Просьле гэтага гэная кучка, складзеная з такіх шкоднікаў, як І. Дварчанін, Марцінчык і пад. пастанавіла ісьці асобна. Тады грам. Р. Астроўскі адмовіўся ад старшынства ў выставачным комітэце Навуковага Т-ва. Дварчанінаўская група, зводзячы ў працягу месяца грамадзянства, што быццам яны робяць выстаўку, у канцы заявілі, што „Бел. Навуковае Т-ва, з прычын, як прынцыповых, гэтак і фінансовых пастанавіла ня браць удзелу ў Паўночнай Выстаўцы" („Доля Працы" № 5). Запраўды, каб ня было перашкодаў прынцыповых, дык не могло-б быць і фінансовых (грашавых). Значыць панове Дварчаніны лічаць непатрэбным тварыць беларускае гаспадарскае й культурнае жыцьцё. Цікаўна заціміць, што як панове Дварчаніны зводзілі людзёў сваёй выстаўкай з мэтаю адцягнуць іх ад выстаўкі Бел. Гасп. Зьвязу, дык „Bieł. Krynica", „Сялянская Ніва" і асабліва Вярнікоўскага „Грамадзянін" выступалі проці Зьвязу і памагалі паном Дварчанінам. Асабліва дзіўная агітацыя „Грамадзяніна" за Дварчаніна. Калі зьвярнуць увагу, што „Грамадзянін" выдаецца за грошы з шулерні, што мэта ягоная—шкодзіць беларускай справе, дык вывад будзе просты — Вярнікоўскі наперад ведаў, што Дварчанін ад выстаўкі адмовіцца. Ну што-ж, можам павіншаваць ім сяброўства — адзін аднаго варты.

Вельмі шкада, што Бел. Нав. Т-ва ня выступіла на выстаўцы, яно магло-б паказаць свае багатыя музэйныя зборы; калі варта вадзіць па адным чалавеку паказаваць музэй, дык тым балей варта паказаць гэныя рэчы на выстаўцы, дзе на іх прышлі-б паглядзець дзесяткі тысячаў. Беларускае Выдавецкае Т-ва магло-б выставіць усе беларускія друкі, каторых цяпер не малая лічба. Т-ва Беларускае Школы цікаўныя былі-б паказаньні ягонае культурнае працы.

Беларускі Гаспадарскі Зьвяз выставіў на выстаўцы тое, што адразу абяцаў, гэта значыцца беларускі хатні прамысл (тое, што робяць самі нашыя гаспадары па сваіх хатах).

У трох пакоях занятых на выстаўцы Бел. Гасп. Зьвязам бачым мноства й умела разьвешаных харошых беларускіх посьцілак, коўдраў, настольнікаў, ручнікоў, радніны, сукна; ёсьць навет суконныя вялікія хораша вытканыя хусткі свае работы. Бачым там рукавіцы й шкарпэткі. Адзін з гэных трох пакоеў заняты вырабамі зь дзерава й саломы (вульлі, драніцы, гонты, бочкі, лыжкі), гліны (цэгла, кахлі й ганчарныя вырабы), рыбацкія снасьці й іншыя.

На краёвай выстаўцы адзьдзел Беларускага Гаспадарскага Зьвязу найляпей выглядае — ён багаты, размавіты й харошы, ня гледзячы на тое, што мала займае месца.

Калі-б яшчэ побач зь Б. Гасп. Зьвязам выступілі на выстаўцы беларускія т-вы—Навуковае, Выдавецкае й Школьнае, дык беларускі адзьдзел на выстаўцы заняў-бы вялікае й найважнейшае месца; гэта было-б вялікае паказаньне сьвядомай беларускай працы, культуры і іх значэньня і пропаганда нашай сьвятой ідэі.

М. *Прынскі.*

## Дзе гэта чувана?

Ёсьць справы натолькі нутрана-нацыянальныя, што да іх не мяшаецца жадны ўрад, пакідаючы іх компэтэнцыі самой нацыянальнасьці. Да гэтакіх спраў належа паміж іншым справа літаратурнае мовы й абэцэды.

Толькі ўрады, у каторых перасьледаваньне нацыянальных меншасьцеў увайшло ў сыстэму, урады, каторыя прынцыпова не згаджаюцца на быцьцё ў сваім гаспадарстве нацыянальнасьцеў іншых ад нацыянальнасьці пануючай, прабуюць мяшацца ў такія чыста нутрана-нацыянальныя справы, як справа літаратурнае мовы або абэцэды. Гэтак, расейскі ўрад у XIX ст. змушаў Ліцьвіноў ужываць расейскаю абэцэду, але гэтага Маскалём не ўдалося дапяць.

У цяперашнім часе Беларусам прыходзіцца нярэдка чуць з польскага боку зычэньні, каб у беларускай мове ўжывалася абэцэда лацінская. Паколькі гэтыя зычэньні выходзяць ад асобаў прыватных, дык зь імі можна не згаджацца, але проці іх ня можна нічога мець. Але зычэньні з боку ўлады, зычэньні-дамаганьні мусяць быць становка адкінены навет і тады, калі-б Беларусы самі хацелі завесьці ў сябе вылучна лацініцу, бо справа нашае абэцэды гэта нашая чыста нутраная справа, каторая павінна быць развязана згодна з патрэбамі нашага народу бяз жаднага мяшаньня чужога. Таковыя вымаганьні абураюць да глыбіні душы кожнага Беларуса, бо страшна нас зьневажаюць, як народ. Такіх вымаганьнеў і ў Польшчы нямашака ані да Немцаў, ані да Украінцаў, Ліцьвіноў ці іншага якога народу. Ляпей-бы дзеля самых сябе й прадстаўлянага гаспадарства зрабілі польскія ўрадовыя дзейнікі, каб яны й да нас мелі крыху пашаны. Зацемлю, што да ўжываньня тае ці іншае абэцэды, што ў нас, Беларусаў, гэтая справа наагул разьвязана так, што за агульна-беларускаю прынята рэформаваная цяпер Беларусамі кірыліца, пры гэтым лацініца не адкінена, а прызнана карысным яе ўжываць усюды там, дзе гэтага дамагаецца насяленьне або дзе гэта вымагаецца практычнымі патрэбамі.

Актуальнасьць гэтай зацемкі будзе ясна, калі скажам, што цяпер міністэрства асьветы друкуе беларускі лемантар лацініцай, у каторым беларускія літары č, š, ž заменены ў міністэрстве на польскія cz, sz, ż; зроблена гэта навет проці волі самога аўтара лемантара, ведамага пэдагога. Літары č, š, ž ужываюцца ў навуковых запісах, č, š лепшыя за польскія cz, sz з боку пэдагогічнага, лепшыя такжа з боку практычнага, бо ўдвая меней займаюць месца, але калі-б яны былі й горшыя за польскія, дык і тады міністэрства не павінна было-б сюды мяшацца. Крышачку Палякоў жыве ў Чэхіі (каля Цешына). Прадстаўце сабе, што Чэхі замянілі-б польскія cz, sz на запраўды лепшыя чэскія č, š; гэта-ж з прычыны гэтага ў Польшчы ўзьнялася-б цэлая бура проці Чэхаў. І зусім справядліва. Але-ж і з намі ня

можна паступаць так нягодна. Хочам верыць, што ў міністэрстве гэта зроблена якім мала-адказным урадінікам, каторы не патрапіў суняць сваіх шовіністычных імкненьнеў.

Спадзяемся, што гэнаю няўдалаю замену Пан Міністар загадае скасаваць, каб пасьля ня прышлося лемантара друкаваць нанова.

*Заходнік.*

## Праект абмежаньня прыступу да адвакатуры.

Адвакацкія зьвязы маняцца зьвярнуцца да ўрадовых дзейнікаў з проектам увядзеньня сьцягу абмежаньнеў у адвакатуры. Адвакацкія зьвязы імкнуцца каб прыступ да адвакатуры быў магчымы ў будучыні адзіне праўнікам з доктарскім дыплёмам, а не, як дагэтуль, магістрам права. Яны зварочуюць увагу, што гэт'кая перашкода падняла-б роўнь навуковых кваліфікацыеў адвакатаў.

## НАВІНЫ.

### Беларуская мова ў Варшаўскім унівэрсытэце.

Сэнат Варшаўскага ў-ту прыняў кандыдатуру д-ра Я. Станкевіча на выкладаньне беларускае мовы ў Варшаўскім у-це. Выкладаньне беларускай мовы ў гэтым унівэрсытэце важна асабліва дзеля таго, што ў Варшаўскім у-це ёсьць праваслаўны багаслоўскі факультэт (вучыцца на ім каля 200 ст.), студэнты каторага, скончыўшы, будуць пастырамі ў Зах. Беларусі.

Але яшчэ важней і патрабней выкладаньне беларускай мовы ў у-це Віленскім. На жаль, улада астаецца глухой на ўсе дамаганьні Беларусаў увесьці беларусаведу ў гэтым у-це.

### Стараньне прыв. беларускай школы.

Беларускі Гаспадарскі Зьвяз падаў куратару заяву на адчыненьне ў Валожыне прыватнай беларускай школы пачаткавай зь сяма адзьдзеламі.

### Коопэратыў Хатняга Прамыслу.

Беларускі Гаспадарскі Зьвяз арганізаваў Коопэратыў Хатняга Прамыслу. Статут коопэратыву пададзены на зацьверджаньне ў акружны суд.

## Із Заходняй Беларусі.

### Каб красьці, шайка злодзеяў падпаляла вёскі.

Ужо некалькі месяцаў, як у Лідчыне здараліся частыя пажары. За кароткі час згарэла каля 20 вёсак а часткава й 3 местачкі—Эйшышкі, Воранова й Радунь. Дзіўна было, што ў усіх гэтых мясцовасьцех у часе пажару здараліся крадзежы. Нарэсьце выявілася, што м. Воранова было падпалена ўмысьля. Зрабіла гэта шайка, што мела сялібу ў Воранове, а рабавала й крала па ўсім павеце. На чале шайкі стаяў якісь Ляўковіч. Цікаўна, што да шайкі гэтай належыў пан Адольф Сухоцкі—собсьнік двох хвальваркаў. Шайка разам із сваім павадыром Ляўковічам арыштавана. Дзіўна, што двaім арыштаваным сябром шайкі—Міхалу Бальбе й Жылінскаму—ўдалося ўцячы з турмы.

Над апісанай зьявай трэба задумацца, яна ня ўзьнікла прыпадкова і ня з прычыны галіты грабаўнік, бо А. Сухоцкі навет пан. Прычына яе характару псыхолёгічнага, яна ляжыць у вагульным грэблівым адношаньню да ўсяго беларускага народу. Калі можна цэламу народу не даваць школы, калі можна калечыць у чужой школе душу гэтага народу, можна дабівацца нацыянальнай сьмерці гэтага народу, дык—просты вывад—можна й іншыя нягодныя рэчы рабіць з гэтым дый усялякім іншым народам.

### Паліцыя зьдзекуецца ў Барунах.

Жылі людзі ў Барунах Ашмянскага пав. і да іх паліцыя ніколі ня мела жаднага дзела. Але даволі іх было абраць да Ўраду Барунскага Т-ва Бел. Гасп. Зьвязу, як зараз пачаліся з боку паліцыі прычэпкі й зьдзекі. Камандант пастарунку паліцыі ў Куцевічах, каго не сустрэне зь сяброў Ураду Т-ва, называе публічна „бальшавіком", хоць сам добра ведае, што гэта няпраўда. Дзеля якойсь драбязы прызывае камандант сяброў Ураду Т-ва на пастарунак ў Куцевічы за вёрст 10—12, як гэта было зь сябрам Мікульскім Язэпам.

Апрача Мікульскага, паліцыя бяз дай прычыны чэпіцца й да іншых сяброў—Руткоўскага А. (быццам у яго студня не ўпарадку), Марцінкіяна Зьм., Боўзана Я., Пількоўскага В. і інш. Цэнтрал. Ўрад Б. Г. Зьвязу будзе проці гэтых зьдзекаў протэставаць у вышшай улады ды, апрача таго, вінных паліцыянтаў падасьць у суд.

### Блага гаспадара валожынскі стараста.

Беларускае насяленьне м. Івенца Валожынскага пав. вырабляе ў вялікай лічбе на продаж добраю кахлю. Кахля івенецкая заваявала сабе пачэснае месца паміж іншым у Вільні, дзе ў значнай меры выціснула прывожанаю здалеку чужую кахлю. Зь Івенца да Вільні каля 140 кілёмэтраў і прывоз аднае кахліны зь Івенца ў Вільню абходзіцца 15 грашоў, бо да станцыі (Гародзькі) 45 клм. Зь Івенца да Воложына 28 клм., пры гэтым варта зацеміць, што на станцыю Гародзькі едзецца зь Івенца пераз Валожына. Ясна, што калі аплачуецца ў Вільні купляць івенецкаю кахлю, дык і пагатове аплаціцца яе купіць у Валожыне, а тымчасам валожынскі стараста прывозе кахлю ў значнай лічбе (у Валожыне ставяць шмат урадовых будынкаў) здалеку па зялезнай дарозе.

Тое самое ёсьць з брукаваньням вясковых вуліцаў у Валожынскім павеце. У м. Івенцы ёсьць звыш 500 брукароў, ёсьць яшчэ брукары (яны-ж і муляры) і ў іншых мясцох Валожынскага пав., як прыкладам каля Вішнева, а тымчасам брукаваць вуліцы стараста выпісуе брукароў ажно з... Лодзі.

## ЛІСТЫ.

### У нас страляюць.

*Данюшава, Вялейскага пав.* У нас ёсьць двор пані Керсноўскай; цяпер там наехаўшы паноў і паўпанкоў. Нядаўна сяляне касілі на сенажаці. У той час адзін з паноў—кажуць, што ён вялікі ўраднік з Варшавы—узяўшы стрэльбу, пайшоў на качкі паляваць, але страляў не на качкі, а на людзёў, што касілі свае матузы. Як сяляне сталі крычэць, каб перастаў страляць, дык ён яшчэ стрэліў двойчы і лучыў Лучынскаму ў пераносіцу, Гатману ў сьпіну і трэцяму ў бок. Сяляне адабралі стрэльбу і заявілі ў пастарунак. Як прыйшоў камандант з Жойдзішак, дык той скамандаваў „рукі па швох!" і закрычэў, што ён ня ўмее гаварыць папольску і „якое табе—кажа—дзела, што я пастраляў, каб я забіў, дык заплаціў-бы 50 зал. у месяц". А страляным сказаў „калі хочаце, дык падавайце ў суд, але мне ўсё роўна нічога ня будзе і лепей гадзіцеся" і даў таму, што лучыў у пераносіцу 15 зал., а тым двум па 10 зал. і згадзіліся, бо баяліся ўзлаваць злога пана.

Дакуль-жа будуць зьдзекавацца над намі гэтыя вяльможныя панове?

*Нестраляны.*

j=й (моj=мой, jіх=йіх або іх).

ЯКУБ КОЛАС (К. Міцкевіч).

## Новая зямля. 15)

ПОЭМА.

(Глянь № 14 „Народу").

XVIII.

### ЗІМА Ў ПАРЭЧЧЫ.

О, добры час дзянькоў прыгожых!
Ты зьнік у хвалях часоў Божых,
І толькі ў думках і ўспамінах
Жывеш-гарыш у днёх дзяцінных.
Далёка я ад межаў родных,
Сярод людзеj, душоj халодных
І сэрцам чэрствых. Я гадаю,
Я родны краj успамінаю,
Я jім жыву, я ў jім душою
І сэрцам кожнаю парою.
Як тоj нявольнік прагне волі,
Так прагну я ступіць на ролі
Сваjіх палеткаў, ніў благенкіх,
Дарог і сьцежачак крывенкіх,
Што гожа ўюцца спомеж жыта
Або срэдзь*) лесу самавіта.
І ўстануць зьявы, як жывыя,
Малюнкі сэрцу дарагія,
І моцна душу парываюць.
„Jідзі да нас! jідзі" гукаюць.
Благаславёны час тоj будзе,
Калі я ў родным сваjім людзе
Куточак бацькаў прывітаю
І радасьць жыцьця там пазнаю.
О, родны краj! о, краj пакуты,
Нягодаj цяжкаю прыгнуты!
Калі-ж ты збудзеш тое гора,
Што і цяпер там, як і ўчора,
Як і даўнеj, цябе зьнішчае
І горкім смуткам авявае?
І ў час вялікі разбурэньня
Ня сьцерпіць навет і каменьне
Тваjіх палёў, глухіх абшараў,
Дзе сьлед ваjны агнём пажараў
Пранёсься дзіка і няшчадна,
Каб не заплакаць з тога зьдзеку,
Што чалавек-зьвер чалавеку
Так злосна чыніць, неўспагадна!..
О, краj моj мілы! Усёj душою
Хачу злучыцца я з табою,
Ў тваjіх палёх пазычыць сілу,
Ў тваёj зямлі зыйсьці ў магілу...
Дзяцінны час!... Я памятаю
Зімы прыход у нашым краю.
Стаjіць над лесам шум маркотны;
Па небе хмары, як палотны,
Паўночны вецер расьцілае,
І бель над далямі зьвісае.
І ціха стане на падворку,
І лес жалобнаю гаворку,
Своj гоман восені канчае
І моўчкі зіму сустракае.
А сетка белая гусьцее
І бліжаj-бліжаj сьнегам сее.
І вось над хатаj, над гуменцам
Сьняжынкі жвавыя гуляюць,
Садок і дворык засьцілаюць
Бялюткім, чыстым палаценцам.
І тут у хаце ня ўтрываеш:
Кажух на плечы накідаеш,
Бяжыш на двор, як тоj шалёны,
Крычыш, гукаеш здавалены,
Зямлі ня чуеш пад сабою
І ловіш белы пух рукою.
Ўгару зірнеш—як роj пчаліны,
Снуюцца ціхія пушыны,
Ўгары зьнячэўку штурхануцца,
Глядзіш—і ў пары пабяруцца.
—О го-го-го, брат!—дзядзька кажа:—
Цяпер зіма напэўна ляжа!
За санкі, Костусь, трэба брацца,
Эх, будзеш мець дзе разгуляцца! —
І Костусь рады і давольны:
Цяпер гулянак сьвет раздольны,
Адкрыты новыя пуціны
У круг забаў яго дзяцінны;
І ён ад радасьці трасецца
Ды ў мяккім сьнезе скачанецца.
А сьнег станоўка і заложна
Так і шуфлюе. Лес набожна
Стаjіць, маўчыць і ўсё сьвятлее,
Як-бы, здаецца, весялее.
Назаўтра ўстанеш—сьвет зьмянёны,
У новых хутрах вербы, клёны,
І ўсёды чыста, бель такая,
Што проста вочы адбірае.
Ў парканах шулы, як салдаты,
Стаяць у струнку, зухаваты,
Башлык высокі, шапкі новы,
„Гура!" гукнуць табе гатовы.
Jідзе з лапатаj дзядзька з хаты
І адграбае сьнег заўзята,
Ў гумно і ў хлеў праводзіць сьцежкі,
Ня хоча мець удзень замешкі,
Бо ўдзень на рэчку і на тоні
Схадзіць рыхтуецца Антоні.
Мы знаем, ён—рыбак з уроды,
І ўсякіх рыб ён знае ходы,
Калі якая нерастуе,
Што ёj пад густ, чаго бракуе;
І нораў кожнаj рыбы знае,
Аб jіх трактат ён прачытае,
Ды так, што люба і паслухаць,
Дзівіцца будзеш ды лоб чухаць.
І гэта ўсё ня з кніг набрана,
Ня з слоў вучонага паўпана,
Якіх цяпер усёды досыць:
Ўсё гэта ўласны розум зносіць,
Свая мазолілась галоўка,
А ня чыя там калатоўка.
Бярэ Міхал свае прылады,
Якія стрэльбы датыкаюць;
Цяпер заjцы ў лясох гуляюць,
Jіх упалюеш бяз прынады,
Тым болеj, што ганчак харошы —
Ёсьць сэнс праjсьціся па парошы.
І чуць што толечкі разднела,
У маткі сьнеданьне пасьпела,
Але яе ўсё падганяюць,
Барджджэj рассыпацца жадаюць,
Каму куды, і ў чым хто здольны—
Дзянёк прыдасца часам вольны.
—Пакінь, Міхась, ты сучку дома,
Мо'дзе забіўся тхор між лому:
Ў карчох на рэчцы сьледу многа,
Jіх там пярэсмыкі, дарога.—
І да тхароў быў дзядзька падак,
А тхор цяпер дабёр і гладак:
У Сьвержні Іцка з Моўшам проста
Да шкуркі ўліпнуць, як кароста.
А Такса талент такі мела,
Што за тхарамі чуць ня млела.
—Бяры сабе, хаj застаецца,—
На просьбу бацька падаецца.
І Таксу ў хаце запіраюць,
А ў лес Сівалку запрашаюць.
Выходзіць бацька першы з дому
Мясіць сьнягі па буралому.
На jім кучомка, верх зялёны,
Кажух кароценкі, чырвоны,
А стан шырокая папруга
Сьціскае спрытна, лоўка, туга;
На меднаj спронжцы лось красуе
І з жоўтаj бляхаю фасуе,
А праз плячо паўзьверх кажуха
Jідзе раменны пас, бы ў зуха;
На гэтым паску—знак блішчасты,
А на плячох—шнур пакручасты.
І вось як бацька выjдзе зрана
Ды стрэльбу накрыж перакіне—
І ў палясоўшчыцкім ён чыне,
Дапраўды, змахвае на пана!

*) Баўгарызм, пакрыв.—сярод.

Да гэтай опозыцыйнасьці Харватаў наагул трэба дадаць яшчэ адзін вельмі важны мамэнт, патрэбны дзеля выясьненьня палажэньня Паўднёваславіі. Гэтым мамэнтам ёсьць умова ў Нэттуно паміж белградзкім урадам і ўрадам Італіі. Гэты трактат у Нэттуно Харваты лічаць шкодным наўперад для сваіх нацыянальных інтарэсаў.

Гожа адцеміць, што Італія мае сваю граніцу не і з старой Сэрбіяй, але з правінцыямі старой Аўстра-Вугры, як напр. з Далмацыяй і пагражае наўперад Харвацыі і іншым навапрылучаным да Сэрбіі землям. І вось харвацкая опозыцыя завастрыла сваё адношаньне да белградзкага ўраду ў сувязі з маючым настаць зацьверджаньням нэттунскага трактату.

Дзеля таго што сялянская партыя Радзічава мае ў Скупшчыне вялікаю лічбу сваіх сяброў і яе паддзержуюць паслы іншых нясэрбскіх землеў, урадовыя групы, каторым залежыць на зацьверджаньні ўмовы з Італійцамі, заварушыліся.

Шовіністычныя паслы, лічыўшы Радзіча найвіннейшым ува ўсіх выступленьнях опозыцыі, наважылі яго аддаліць з арэны палітычнага жыцьця.—І вось некалькі тыднеў таму назад у Скупшчыне разыгралася крывавая драма—падчас паседжаньня раздаліся стрэлы з боку сэрбскіх шовіністых, якімі адразу забіта двух Харватаў, у тэй лічбе брата Сьцяпана Радзіча, а ён сам цяжка ранены.

І вось цяпер пасьля даўгой хваробы Радзіч памёр. Сытуацыя ад гэтага пагоршала.

У Загрэбе зьбіраецца контр-парлямэнт. Харваты дамагаюцца законадаўчай, адміністрацыйнай і фінансавай аўтаноміі.

У сталіцу Харвацыі ўводзяцца сэрбскія адзьдзелы жандармэрыі. Гэтак цяпер калі глыбокі смутак пануе ў Харватыі з прычыны сьмерці вялікага народнага барацьбіта, над ўсёй Паўднёваславіяй вісіць грознае зданьне хатняй вайны. *Р.*

## Зьезд б. легіёнераў.

12 жніўня сёлета быў у Вільні VII зьезд б. польскіх легіёнераў. На зьезд прыехаў і марш. Я. Пілсудскі.

Заграніцаю і ў Польшчы шмат хто спадзяваўся, што прамова марш. Пілсудскага будзе аб спрэчцы паміж Літвой і Польшчай за Віленшчыну, але марш. Я. Пілсудскі пасьвяціў сваю прамову ўспамінам зь мінулага жыцьця легіёнарскага.

# Што дзеіцца у сьвеце?

### Індыя дамагаецца зраўнаньня з домініямі.

Англіцкім газэтам наказуюць з Калькуты (места ў Індыі), што дэлегаты конфэрэнцыі ўсіх індускіх партыеў падалі прадстаўніком англіцкай улады проект новай конституцыі Індыі. Проект гэны дамагаецца Індыі такіх самых правоў, якія маюць англіцкія доміліі (самастойныя гаспадарствы, толькі ў некатарай залежнасьці ад Англіі). Будучы індыйскі ўрад, паводле гэнага проекту, меўбы складацца з 6-ёх міністраў і прэм'ера. Заканадаўчыя ўстановы складаліся-б із сэнату й сойму. Гэнэральны губэрнатар меўбы права забароны ў вадносінах да пастановаў парлямэнту. „United Press" сумляваецца, каб англіцкі ўрад згадзіўся на гэты проект.

Калі „ня згодзіцца цяпер, дык згодзіцца ў чэцьвер", як кажа прыказка, бо імкненьні народаў, што адраджаюцца да свайго нацыянальнага жыцьця, ёсьць запраўды непераможныя.

### У сэрбскай скупшчыне.

У сэрбскім парлямэнце, званым скупшчынаю, выдадзеныя суду паслы—Паповіч і Ёзановіч, замяшаныя ў убіўстве харвацкіх паслоў.

Нэттунская ўмова паміж Югаславіяй і Італіяй зацьверджана югаслаўянскай скупшчынаю.

### Сьмерць павадыра ўзмацняе харвацкі народ.

Надовічы сконстатавана (ўстаноўлена) поўная згода ўсіх харвацкіх паслоў, яны верныя ідэалам вялікага харвацкага павадыра — нябошчыка Сьцяпана Радзіча. На паседжаньню аднагалосна прынята гэт'кая пастанова:

„Сьцяпан Радзіч, засланы Богам павадыр харвацкага народу, нягледзячы на цялесную сьмерць, не перастае й далей быць павадыром свайго народу. Прыродна, што й па сьмерці ён астанецца старшынёю партыі. Кіраваць працаю партыі будзе віцэ-старшыня др. Мачак".

### Умова Калёгава.

27 жніўня мае быць падпісана ў Парыжы Калёгава ўмова (пакт) аб забясьпечаньню міру. Умова гэная запраўды міру мала або й нічагусенькі не паможа, бо 1) прыймае яна пад увагу вылучна гаспадарствы, а не народы, 2) ня прадбача кары за нарушэньне міру, а вылучна маральны націск на таго, хто пачне наступальнаю (а не дзеля абароны) вайну.

Сам аўтар гэтае ўмовы, сэкратар Амэрыканскіх Злучаных Гаспадарстваў Кельлёг, прыедзе ў Парыж дзеля падпісаньня пакту толькі на кароткі час; з Парыжу паедзе ён яшчэ ў Англію.

Амэрыканскае грамадзянства пабояваецца, каб прадстаўнікі гаспадарстваў, прыехаўшы дзеля падпісаньня пакту, не закранулі справы даўгоў, пазычаных у Амэрыццы саюзнымі гаспадарствамі. Дзеля таго Кельлёг запэўніў, што едзе ў Францыю вылучна дзеля падпісаньня пакту, ганячага вайну.

Нямеччына прабавала даведацца ў Парыжы, Лёндане, Рыме й Бруселе, ці можна было-б на вышменаваным парыскім зьезьдзе падняць пытаньне аб звальненьню Ўзрэйня ад акупацыйнага войска.

Францускі ўрад адвёсься няпрыхільна да гэтага жаданьня Нямеччыны, нягледзячы на гэта нямецкі міністар заграпічных справаў Стрэсэманн гатуе грунт дзеля гэтае справы ў іншых гаспадарствах.

### Вальдэмар за супрацаўніцтва зь Нямеччынаю.

Бэрлінская газэта „Tag" надрукавала гутарку свайго ковенскага корэспондэнта зь літоўскім прэм'ер-міністрам Вальдэмарам. Апошні выступіў проці паморскага й віленскага калідораў. Гэт'кае палажэньне — паводле Вальдэмара—ня можа ўдзержацца, бо яно грозе міжгаспадарсьцьвенымі непаразуменьнямі (конфліктамі). Калідоры грозяць Ліцьве і Ўсходнім Прусам, дык гэта літоўскаму гаспадарству паказуе дарогу палітычнага паразуменьня і супрацаўніцтва зь Нямеччынаю.

### Троцкі ў Нямеччыне.

Як ведама, павадыр комуністычных опозыцыянэраў Троцкі быў засланы ў Сыбір. Цяперака бэрлінскі корэспондэнт газэты „Chicago Tribune" наказуе, што бачыў Троцкага ў Бэрліне. Корэспондэнт праве, што Троцкі выехаў заграніцу зь ведамай згоды ўрадовых дзейнікаў радавых. Троцкі быццам абяцаў, выяжджаючы із Сыбіру, ня выступаць проці цяперашняга радавага ўраду і маніцца заняцца літаратурнай дзейнасьцяй. Троцкі жыве ў ваколіцы Бэрліну.

Паводле апошніх вестах, гэты наказ „Ch. Tribune" аказаўся непраўдзівым, бо Троцкі астаўся ў Сыбіры.

## Swaja pošta.

Piotru Koŭbuciu, Łukašu Zienkiewiču, J. Karabaču, Piotru Kwaču, Miłokiewiču, Apanasu Turu, Justynu Kawalonku, Wacławu Hajžeŭskamu, Ściapaku Rudaku, Adolfu Saroku, Alaksandru Bahdančyku, Juljanu Piarkoŭskamu, St. Hrynkiewiču, Alaksieju Kućko, Juramu Doemliku, Kiernowiču, Zacharu Citowiču, Wiery Tarasewičancy, Bazylu Kawalu, Jazepu Kamajedu i Janku Korzanu — hazetu pasyłajem, čakajučy ad Was padpisnoj płaty.

*Žycharom w. Hałuboŭščyna.* Brasłaŭskaha paw. Redakcyja „Narodu" z pryčyny kiepskaha materjalnaha pałažeńnia nia moža ŭ wadnu wiosku až niekulki ekzemplaroŭ pasyłać probnych numaroŭ, a wysyłajem tolki adzin na imia J. Kawalonka.

*Piotru Dubowiku.* 10 ekz. „Narodu" zaŭsiody budzie wam pasyłacca ŭpisanym (zakaznym).

Padpisnuju płatu atrymali ad: Mikałaja Bochana—3 zł. 50 hr., Wajawodzkaha Uradu ŭ Biełastoku—1 zł. 50 gr., Kiernowiča—2 zł. 10 hr., J. Smyka—2 zł.

## АБ УСІМ ПАКРЫСЕ.

— Хто стаіць на чале літоўскай урадовай партыі? Як наказуе літоўская агенцыя, старшынёю цэнтральнага спаўняючага комітэту урадовай партыі таўцініпкаў абраны бурмістрэм. Коўні Вілейшыс, віцэ-старшынёй пасол Лапенас, пісарам—Каваліс.

## Да сяброў Валасных і павятовых Самаўрадаў.

Урад Беларускага Студэнскага Саюзу з мэтаю ўзаемапамогі незаможным беларускім студэнтам у канцы 1927 і пачатку 28 году зьвярнуўся да ўсіх самаўрадаў беларускіх земляў пад Польшчаю з просьбаю матар'яльнае памогі для беларускага студэнства.

У хуткім часе пасьля гэтага звароту ад некаторых самаўрадаў дасталі адказы, ці то адмоўныя, ці з паведамленьням аб вызначэньні некаторых субсыдыяў.

Ад большасьці самаўрадаў аднак мы не дасталі аніякіх, але з прыватных крыніцаў даведываемся, што некаторыя самаўрады, пераважна Навагрудзкага ваяводзтва, зь недаўшых нам ніякага адказу на нашыя просьбы, выасыгнавалі грошаў на вышпададзеныя мэты, але правядзеньню ў жыцьцё гэтых пастановаў стаяць на перашкодзе павятовыя соймікі адносных самаўрадаў, ці, інакш кажучы, не зацьвярджаюць пастановаў валасных радаў аб памозе для беларускага студэнства.

У сувязі з гэтым ласкава просім Валасныя Рады, або асобных Сяброў Валасных Радаў, якія пастанавілі субсыдыі для Беларускага Студэнскага Саюзу, паведаміць нам у якнайхутчэйшым часе аб наступным:

1) Які самаўрад, калі й колькі асыгнаваў для Б. С. С.

2) Дзеля якой прычыны дагэтуль няспоўненая пастанова.

Дастаўшы такія дадзеныя, Беларускі Студэнскі Саюз будзе ад сябе вясьці адпаведныя стараньні аб правядзеньні ў жыцьцё пастановы таго ці іншага самаўраду адносна нашае просьбы.

Паведамляць нас аб гэтым просім якнайхутчэй, і найлепш было-б спосабам афіцыяльным ад імя Валасных Урадаў, але калі гэтага зрабіць немагчыма, дык просім паведамляць нас прыватна (асабіста каторы небудзь сябра-Валасной Рады) на адрэс наступны: „Беларускі Студэнскі Саюз"— Вільня, вул. Сьвятой Ганны нр. 2.

За Старшыню

(—) *Я. Ермаковіч.*

Сэкрэтар

(—) *Ст. Станкевіч.*

Вільня 6—VIII.
1928.

## Навагрудзкая Беларуская Гімназыя

Прырода-Матэматычнага тыпу, з чатырма першымі праўнымі клясамі, наказуе аб наступным:

1. Дзеля таго, што прыймо новых вучняў у Гімназыю ўвосені можа адбыцца толькі з асобнага дазваленьня для кожнага вучня з боку Куратары, Дырэкцыя Гімназыі прапануе ўсім бацьком і апякуном падаваць у Дырэкцыю Гімназыі на імя „Kuratorjum Okręgu Szkolnego Wileńskiego", просьбы аб гэтым загадзя, найпазьней 3-га верасьня, каб Дырэкцыя мела час ськіваваць іх у Кураторыю і да пачатку экзаменаў мела вымаганае дазваленьне.
2. Экзамены адбудуцца ад 10 да 15 верасьня.
3. Да просьбаў трэба дадаць:

a) Мэтрыку аб нараджэньні вучня,

b) Пасьведчаньне доктара аб стане здароўя і прышчэпу воспы,

c) Пасьведчаньне аб адукацыі.

**Дырэкцыя Гімназыі.**

Выдавецтва Беларускае Сялянскае Партыі. Вільня, Друкарня „РАХ", Свята-Ігнатаўская вул. № 5. Рэдактар Б. Станкевіч.